ВЫДАЕЦЦА З САКАВІКА 1935 ГОДА

# КІРАВЕЦ

СЕРАДА, 7 чэрвеня 2000г.

№ 43 (8112)

Раённая грамадска-палітычная газета

Узнагароджана Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР

Цана 24 руб.

## ПРЭС-ЦЭНТР РАЙВЫКАНКАМА ПАВЕДАМЛЯЕ

На мінулай планёрцы разгледжаны вынікі праверкі гаспадарак, прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў раёна абласной інспекцыяй Праматамнагляду. У выступленні намесніка начальніка інспекцыі М.М.Мароза дадзена поўная карціна стану спраў, адзначаны шматлікія недахопы і вызначаны тэрміны іх ухілення. Падрабязная інфармацыя будзе надрукавана ў адным з бліжэйшых нумароў "Кіраўца".

Намеснік старшыні райвыканкама Р.Н.Дайнека напомніў, што заканчваюцца тэрміны перарэгістрацыі суб'ектаў гаспадарання. Трэба пасяшацца ўсім, хто не перарэгістраваўся, і прадаставіць неабходныя дакументы ў аддзел эканомікі і рыначных адносін райвыканкама. Р.Н.Дайнека праінфармаваў прысутных аб папярэдніх выніках работы прамысловай галіны за 5 месяцаў бягучага года, нізкіх тэмпах здачы лому каляровых металаў.

Намеснік старшыні райвыканкама Л.Д.Смагін у сваім выступленні спыніўся на ходзе падпіскі на рэспубліканскія, абласныя выданні і раённую газету "Кіравец". Тэмпы, з якімі праводзіцца падпісная кампанія, не задавальняюць. Нельга мірыцца далей і з тым, што многія арганізацыі не разлічыліся з раённым вузлом паштовай сувязі за падпіску першага паўгоддзя. Мае запазычанасць перад вузлом сувязі і раённы бюджэт.

Першы намеснік старшыні райвыканкама С.У.Свірко праінфармаваў прысутных аб праведзеным семінары на базе СКП "Ніва", акрэсліў задачы па нарыхтоўцы кармоў для грамадскага статка.

## ЛАДЗЯЦЦА СПРАВЫ Ў "НІВЕ"

***У мінулую суботу, калі ў СКП "Ніва" праводзіўся раённы семінар па арганізацыі пашавага ўтрымання грамадскага статка і падрыхтоўцы да нарыхтоўкі кармоў, прысутныя не трэба было пераконваць у тым, што травастой сёлета зрэджаны, яго ўраджайнасць невысокая. Далей расціць травы немэтазгодна: яны пад сонцам агрубеюць, страцяць спажыўныя якасці. Кіраўнікам гаспадарак рэкамендавана было без прамаруджвання прыступаць да нарыхтоўкі сена, у першую чаргу падкасіць плошчы, адведзеныя пад пашы.***

***У СКП "Ніва" не чакалі распараджэнняў, а яшчэ тыдзень таму прыступілі да касавіцы. На ўчарашнюю раніцу, напрыклад, тут ужо скошана 220 гектараў траў, нарыхтавана 240 тон сена. Адметна, што рулоны не "начуюць" у полі, а звозяцца да фермаў, дзе складваюцца пад павецямі. Трэба адзначыць, што людзі працуюць старанна. Па паўтары-дзве дзённыя нормы выконваюць машыністы У.І.Навумаў і А.М.Макаронак, механізатары, занятыя на варушэнні і зграбанні сена І.А.Лазарэнка і В.В.Ерамееў, больш чым па 100 тон скаталі сена ў рулоны вопытныя механізатары М.І.Бандарэнка і А.С.Петранкоў. Бесперабойную работу ўборачнага канвеера забяспечвае на пагрузцы рулонаў А.М.Сакабіцкі, вадзіцелі на адвозцы.***

***Сёння ў СКП "Ніва" прыступілі да падкосу канюшыны, з якой мяркуюць нарыхтоўваць сянаж.***

**Пятро СУРЫНОВІЧ.**





***На здымках: А.С.Петранкоў — перадавы механізатар СКП "Ніва"; адвозка рулонаў.***

**Фота аўтара.**

**Падпіска**

## СТРЫМЛІВАЮЦЬ ФІНАНСАВЫЯ ЦЯЖКАСЦІ

На пачатку бягучага тыдня ў райвыканкаме адбылося пасяджэнне, якому папярэднічала абласная селектарная нарада адказных работнікаў абласнога ўпраўлення "Белпошта" і кіраўнікоў раённых, гарадскіх вузлоў паштовай сувязі, намеснікаў старшынь гаррайвыканкамаў па інфармаванню насельніцтва, рэдактараў абласных і раённых газет з удзелам намесніка старшыні аблвыканкама А.Ц.Глаза, па правядзенню падпісной кампаніі на другое паўгоддзе. Прыняць удзел у ім запрашаліся адказныя работнікі райвыканкама, ГА "БПСМ", кіраўніцтва раённага вузла і начальнікі сельскіх аддзяленняў паштовай сувязі, намеснікі кіраўнікоў прадпрыемстваў, арганізацый і гаспадарак па інфармаванню, старшыні сельскіх Саветаў дэпутатаў.

Намеснік старшыні райвыканкама па інфармаванню Л.Д.Смагін звярнуў увагу прысутных на тое, што па становішчу на 5 чэрвеня г.г. у раёне выпісана 7737 экземпляраў газет і часопісаў, што складае 44,7 працэнта да ўзроўню I квартала. Да заканчэння падпісной кампаніі засталося зусім нямнога часу, таму патрэбна ўсім папрацаваць у гэтым плане. Неабходна, каб у кожную сям'ю ішло хаця б адно выданне.

Па выніках падпіскі на першы квартал г.г. раённаму вузлу паштовай сувязі падпісчыкі (у асноўным за ведамасную падпіску) запазычыліся звыш 5 мільёнаў рублёў. Сярод неплацельшчыкаў: раённы аддзел культуры, дрэваапрацоўчы камбінат, райбальніца, СЗАТ "Бераснёўскае" і іншыя. У дадзеным выпадку кіраўніцтва РВПС згодна і на бартэрны разлік. Так паступіла ААТ "Кіраўская райсельгасхімія", якая разлічылася за даўгі маючайся драўнінай. Паступілі прапановы накont такой аплаты і з агароднінасушыльнага завода.

Як адзначыў начальнік РВПС М.Я.Унятаў, з аб'яднання "Белпошта" атрымана тэлеграма, у якой паведамляецца, што заказ на перыёдыку на II паўгоддзе не будзе прымацца, калі да яго не будзе прыкладзена копія аб аплаце.

Было таксама заўважана, што жыхары раёна хочуць выпісваць і чытаць газеты (у агульнай колькасці індывідуальная падпіска складае 93,1%), але для гэтага ў іх няма сродкаў. Так, напрыклад, працаўнікам калгасаў імя Свярдлова і "Камуніст" не выдалі яшчэ зарплату са студзеня месяца. І, як адзначыла начальнік Стайкаўскага сельскага аддзялення паштовай сувязі І.М.Міронава, толькі 5 працуючых аформілі падпіску, а астатнія — пенсіянеры.

Прыведзеныя Л.Д.Смагіным дадзеныя сведчаць, што многія адказныя работнікі райвыканкама, ГА "БПСМ" наогул не выпісваюць газеты і часопісы, некаторыя выпісваюць такія газеты, як "Толока", "Народны доктар". Маюцца такія "аматары" і сярод кіраўнікоў прадпрыемстваў, арганізацый, устаноў, гаспадарак. Мізэрную колькасць газет і часопісаў атрымліваюць настаўнікі, а супрацоўнікі раённага аддзела ўнутраных спраў выпісваюць у асноўным газету "На страже Октября".

На нарадзе таксама адзначалася, што на кожным прадпрыемстве неабходна ўстанавіць інфармацыйны стэнд, куды змяшчаць свежыя газеты, каб усе працуючыя змаглі іх пачытаць. Так робіць у аўтапарку №14, Баравіцкім сельсавеце.

**Т.БАРАДЗІНА.**

## ДА НАС ЕДУЦЬ ЗА ВОПЫТАМ

**З абласнога семінара**

**Наш раён з зайздроснай перыядычнасцю становіцца месцам правядзення семінараў па гандлю: як абласных, так і рэспубліканскіх. Зусім нядаўна на базе прадпрыемстваў райспажывтаварыства адбыўся абласны семінар-нарада, а літаральна праз два тыдні работнікі кааператыўнага гандлю раёна зноў прымалі гасцей, яшчэ больш прадстаўнічых. На гэты раз прыязджалі пераймаць вопыт работы намеснікі старшынь райвыканкамаў вобласці, курыруючыя гандаль, старшыні раённых спажывецкіх таварыстваў. У рабоце семінара прынялі ўдзел памочнік Прэзідэнта — галоўны інспектар па Магілёўскай вобласці Ю.А.Кулакоўскі, першы намеснік старшыні аблвыканкама Д.А.Сівіцкі, старшыня аблспажыўсаюза Г.А.Скрыба і яго намеснікі, з нашага боку — кіраўнік раённай "вертыкалі" А.С.Сцяпанчанка, старшыня раённага Савета дэпутатаў В.В.Маркевіч.**

Як было адзначана ў ходзе папярэдняй размовы, падраздзяленні райспажывтаварыства Кіраўшчыны невыпадкова так часта становяцца аб'ектам увагі калег з вобласці: кааператыўны гандаль раёна працуе ўстойліва, эфектыўна. Па выніках работы за чатыры месяцы бягучага года на фоне страт, якія церпяць роднасныя арганізацыі, наша райспажывтаварыства атрымала немалы прыбытак — 9,5 мільёна рублёў. Нідзе не назіраецца такога, каб рэнтабельнымі, як у нас, былі ўсе галіны кааператыўнай гаспадаркі. Узровень продажу тавараў на душу насельніцтва ў нас больш, чым сярэднеабласны. Тэмы семінара былі акрэслены наступным чынам: магчымасці нармальнага забеспячэння насельніцтва ў сённяшніх складаных умовах, кіраванне ў райспажывтаварыстве тавармымі рэсурсамі, забеспячэнне фінансавай устойлівасці прадпрыемстваў гандлю.

А.С.Сцяпанчанка ў сваёй прамове коратка пазнаёміў гасцей з раёнам. Адзначыў цеснае ўзаемадзеянне райвыканкама і райспажывтаварыства, чаму садзейнічае і тое, што ён сам з'яўляецца членам яго праўлення. Сумесна, як заўважыў прамоўца, былі вызначаны асноўныя напрамкі работы: аднаўленне гандлёвай сеткі, насычэнне магазінаў таварамі, павышэнне культуры абслугоўвання. Дарэчы, толькі летась на аднаўленне гандлёвай сеткі было выдаткавана 14 мільёнаў рублёў (дэнамінаваных). У многім, адзначыў А.С. Сцяпанчанка, і яго падтрымала ў гэтым кіраўніцтва аблспажыўсаюза, поспех дасягаецца дзякуючы вопытным, кваліфікаваным кадрам, якія працуюць у Кіраўскім райспажывтаварыстве.

Пасля непрацяглай размовы ўдзельнікі семінара пачалі аб'езд падраздзяленняў райспажывтаварыства, каб на практыцы паглядзець, як вырашаюцца надзённыя пытанні гандлёвага абслугоўвання насельніцтва.

Ля магазіна тавараў штодзённага попыту ў Скачку гасцей сустракалі хлебам-соллю. Гэтая гандлёвая кропка — спецыфічная, знаходзіцца на трасе, таму і асартымент тавараў шырэйшы, чым у магазінах аддаленых ад шашы вёсак.

Увага надаецца сёння арганізацыі прыдарожнага гандлю, каб у транзітных пакупнікоў была магчымасць падсілкавацца, адпачыць. З гэтай мэтай нядаўна была адкрыта шашлычная ў вёсцы Баравіца. І гэта нowаўвядзенне ўжо апраўдала сябе: паслугамі ларка ахвотна карыстаюцца праязджаючыя, яны спадарожна наведваюць і мясцовыя магазіны, і там за апошні час павялічыўся таваразварот.

У прамтаварным магазіне Баравіцы тлумачэнні даваў дырэктар рознічнага гандлёвага прадпрыемства "Кааппрамгандаль", якому падпарадкоўваецца шэраг гандлёвых кропак, В.В.Кундзелеў. Ён адзначыў, што іх падраздзяленне напрамую кантактуе з прамысловымі прадпрыемствамі, толькі нязначная частка тавараў паступае з базы. Адзін з напрамкаў дзейнасці, які забяспечвае рэнтабельную работу — манеўр таварамі: перавоз іх з таго магазіна, дзе заляжаліся, у іншыя.

У сталовай вёскі Баравіца была арганізавана выстава прадукцыі камбіната кааператыўнай прамысловасці і камбіната грамадскага харчавання: каўбасныя, кандытарскія, макаронныя вырабы, іншае. Водгукі гасцей аб смакавых і іншых якасцях прадукцыі пасля дэгустацыі былі станоўчымі.

Прыемныя ўражанні засталіся ва ўдзельнікаў семінара пасля наведвання магазіна тавараў штодзённага попыту вёскі Стаўпішчы. Будынак яго стары, але прыведзены ў прыгожы выгляд, як, між іншым, і ўсе гандлёвыя кропкі на вёсцы і ў райцэнтры. Задаволіла гасцей насычанасць сельскага магазіна таварам, работа па выкананню папярэдніх заказаў насельніцтва.

Знаходзячыся ва ўніверсаме "Заходні" камбіната кааператыўнай прамысловасці, госці, як станоўчае, перш за ўсё адзначылі тое, што зроблена пляцоўка для вынаснога гандлю, што вялікае памяшканне магазіна разгароджана і зроблены кафетэрый: дзякуючы гэтаму значна павялічыўся абарот кандытарскіх вырабаў, сокаў.

(Заканчэнне на 2-й стар.)

# ДА НАС ЕДУЦЬ ЗА ВОПЫТАМ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

Спадабалася ўдзельнікам семінара ў дзіцячым кафэ "Церамок", магазінах "Дзіцячы свет", "Гаспадарчыя тавары", "Меркурый". Ва універмагу цікавіліся, як арганізаваны камісійны гандаль (28 працэнтаў камісійнага абароту вобласці прыходзіцца на Кіраўск), як у гандлёвым прадпрыемстве манеўруюць таварам, працуючы з кожнай яго адзінкай.

Шмат пытанняў прафесійнага характару ўзнікла ў ходзе наведвання базы аптова-рознічнага гандлёвага прадпрыемства "Каапгандаль". Тлумачэнні давала намеснік дырэктара прадпрыемства С.Р.Сарока. Яна пазнаёміла прысутных са схемай руху тавараў, адзначыла, што працуюць ракой зношанасці абсталявання забяспечваецца нармальны рытм работы. У ходзе размовы было пастаўлена пытанне аб неабходнасці будаўніцтва новага камбіната і аснашчэння яго сучасным абсталяваннем.

Маючы на ўвазе, што ў нашага прадпрыемства "Каапнарыхтпрам" самы высокі ў вобласці нарыхтоўчы абарот, госці наведалі яго падраздзяленні і назіралі за іх работай.

Пасля смачнага абеду ў кафэ "Спатканне" адбыўся абмен думкамі і былі падведзены вынікі семінара.

У ходзе абмена думкамі першы намеснік старшыні аблспажыўсаюза Л.І.Ражкоў у сваім выступленні адзначыў, што ў Кіраўскім шляхі выжывання кааператыўнага гандлю ў наш складаны час: нарошчванне аб'ёмаў рэалізацыі, выхад прадпрыемстваў на прагнозныя паказчыкі, скарачэнне таварных запасаў, паўната павелічэння гандлёвых надбавак, заключэнне дагавораў па ўсіх групах сацыяльна значных тавараў і іншыя.

Намеснік старшыні аблвыканкама Д.А.Сівіцкі падзякаваў работнікам спажыўкааперацыі раёна за тое, што паказалі, як можна працаваць, калі ёсць на гэта жаданне, каб выканаць сваю галоўную задачу — у любой сітуацыі забяспечыць насычанасць магазінаў таварам. Разам з тым, Д.А.Сівіцкі спыніўся на негатыўных момантах, якія ўзяў


Фота Івана Лукановіча.

райботнікі з іх малымі партыямі. Усё пастаўляецца ў гандлёвую сетку, невялікі рэзерв маецца толькі для дзіцячых устаноў і бальніц. Увесь наяўны тавар занесены ў памяць камп'ютэраў, з іх дапамогай і ажыццяўляецца рух тавараў, згодна заявак загадчыкаў магазінаў.

Пабывалі ўдзельнікі семінара ў цэхах камбіната кааператыўнай прамысловасці: іх цікавіла, як пры таспажыўтаварыстве на належным узроўні арганізавана кіраванне таварнымі рэсурсамі: усе адказныя работнікі ведаюць, які тавар паступіць у гандлёвую кропку, у якіх аб'ёмах і на якіх умовах. Тут дакладная сістэма руху тавараў, наладжаны строгі кантроль за выкананнем заявак магазінаў.

Старшыня аблспажыўсаюза Г.А.Скрыба вызначыў на заметку ў асобных прадпрыемствах: у прыватнасці, у Любоніцкіх прамтаварным магазіне, кафэ, "Бульбяной" райцэнтра, іншых і прапанаваў ухіліць недахопы.

На завяршэнне выступіў памочнік Прэзідэнта — галоўны інспектар па Магілёўскай вобласці Ю.А.Кулакоўскі.

**Наталля ХАДАКОВА.**

**На здымку:** ***у ходзе семінара.***

# ПАДАТКІ ЛЕПШ ПЛАЦІЦЬ СВОЕЧАСОВА

**Змяненні ў падатковым заканадаўстве абумоўлены, у першую чаргу, рэаліямі нашага жыцця. Жыцця няпростага, бо ўсё больш людзей вымушаны шукаць дадатковыя крыніцы даходаў. Аднак пры гэтым патрэбна і дадатковыя падаткі плаціць. Аб тым, як сёлета абстаяць справы з уплатай падаткаў прыватнымі асобамі, наша гутарка з начальнікам аддзела па падаткаабкладанню фізічных асоб падатковай інспекцыі І.І.ПЕЧАНЯМ.**

***— Іван Іванавіч, людзі ў большасці жывуць сённяшнім днём, а тут у сувязі з дэклараваннем неабходна весці скрупулёзны падлік грошай на працягу года. Нават даходаў ад разавых работ?***

— Менавіта так. Гэты падлік дасць магчымасць вызначыць, ці трэба ўвогуле падаваць дэкларацыю. Калі гадавы сукупны даход грамадзяніна (нават з некалькіх крыніц) не перавысіў сумы, з якой налічэнне падатку робіцца па мінімальнай стаўцы ў 9 працэнтаў, то падаваць дэкларацыю не трэба. Гэта сума зараз складае 240 мінімальных заработных плат. Сёлета ў інспекцыю паступілі звесткі аб атрыманых дадатковых даходах 1445 грамадзян, у выніку чаго даналічана ў даход дзяржавы 266 тысяч рублёў.

***— А што чакае тых, хто абавязаны, але не падае дэкларацыю?***

— Для гэтага існуюць канкрэтныя меры фінансавай адказнасці. Мы маем права на падставе ўласных звестак налічыць падаходны падатак плюс фінансавыя санкцыі: 10 працэнтаў ад сумы налічанага падатку. Да таго ж, з моманту, як скончыцца ўстаноўлены тэрмін выплаты падаткаў, налічваецца пеня за кожны дзень пратэрміноўкі. Яна роўная ўліковай стаўцы, якую ўстанаўлівае Нацбанк рэспублікі.Зараз гэта 0,25 працэнта ад сумы падатку. Да парушальнікаў прымяняюцца і меры адміністрацыйнай адказнасці: накладанне штрафу ад 10 да 20 мінімальных заработных плат.

***— Ці патрэбна ўказваць у дэкларацыі даходы ў выніку дарэння?***

— У выпадку, калі сума падарунка перавышае 200 мінімальных заработных плат, яе неабходна ўказваць у дэкларацыі. Улічваюцца і сродкі, атрыманыя ў выглядзе спадчыны не па

## Нашы інтэрв'ю

закону і не ад блізкіх сваякоў. Дэкларуюцца таксама і даходы, атрыманыя ад продажу на працягу 5 гадоў больш за адну кватэру ці жылога дома, а за каляндарны год — больш за адзін транспарты сродак.

***— Як вядома, летась змяніўся парадак налічэння падаходнага падатку і ўтрымання яго з заработнай платы па асноўным месцы работы. Чым выкліканы гэтыя змяненні?***

— Калі раней падаходны падатак налічваўся штомесяц зыходзячы з месячнага заробку, то паводле новай рэдакцыі Закону "Аб падаходным падатку з грамадзян", падатак налічваецца і ўтрымліваецца штомесяц з нарастаючым вынікам зыходзячы з гадавога даходу.

Прычын для гэтых змяненняў некалькі.

Па-першае, на працягу года грошы выплачваюцца нераўнамерна: уплываюць квартальныя або гадавыя прэміі, няўстойлівае фінансавае становішча суб'ектаў гаспадарання. Як вынік, у адным месяцы даходы абкладаюцца па стаўцы 9 працэнтаў, у другім — 30. Між тым, калі ўзяць гадавы даход цалкам, то стаўка магла б не перавысіць 15 працэнтаў.

Па-другое, існаваў розны парадак падаткаабкладання даходаў у залежнасці ад іх віду. Узнікала сітуацыя, калі з аднолькавага гадавога даходу ад прадпрымальніцкай дзейнасці абкладаліся зыходзячы з гадавога даходу і на іх не ўплывала нераўнамернасць атрымання даходаў на працягу каляндарнага года.

***— Людзі схільныя любыя змяненні ў заканадаўстве лічыць больш жорсткімі. У якой ступені такое датычыць тэмы нашай размовы?***

— Калі сказаць коратка, у ніякай. Наадварот, бо адначасова з устанаўленнем новага парадку налічэння падатку значна зніжаны стаўкі падаходнага падатку за кошт павышэння межаў даходаў, з якіх падатак утрымліваецца па мінімальнай стаўцы 9 працэнтаў і зніжэння максімальнай стаўкі. Раней даход у 120 мінімальных заработных плат абкладаўся падаткам у гэтыя самыя 9 працэнтаў, а зараз гэты мінімум вышэй удвая — 240 мінімалак. Больш таго, з даходаў па асноўным месцы работы не падлягаюць падаткаабкладанню сродкі ў памерах дзвюх мінімальных зарплат на кожнага ўтрыманца у сям'і працуючага супраць паловы гэтай сумы ў былым заканадаўстве.

**Гутарыла Таццяна БАРАДЗІНА.**

## * З апошняй пошты

# СТВАРЫЛІ ДОБРЫ НАСТРОЙ

Выдатную канцэртную праграму падрыхтавалі і паказалі на сцэне нашага Барчыцкага сельскага Дома культуры ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці Скрыпліцкага СДК. Такія абмены сталі ў нас традыцыйнымі. На гэты раз скрыпліцкія самадзейныя артысты прыемна здзівілі новай праграмай з цікавымі і арыгінальнымі нумарамі, у якіх былі задзейнічаны моладзь, школьнікі. Прысутныя ў зале нашага Дома культуры цёпла сустракалі салістку Вольгу Чарнову, парадыста, гумарыста і танцора Сяргея Шчура. Вельмі спадабаўся ўсім парадыйны танец маленькіх "лебядзяў" у выкананні С.Шчура, А.Апацкага і Д.Майсеенкі, які выклікаў у зале вясёлы смех. Дружнымі апладысментамі гледачы ўзнагародзілі выступленне В.Анісімава, які адмыслова выканаў танец "Цыганачка".

Мы вельмі ўдзячныя самадзейным артыстам са Скрыпліцы за цудоўны канцэрт і той добры настрой, які яны стварылі сваім выступленнем.

**Алена ШАКАРАВА, дырэктар Барчыцкага СДК.**

# ЗАПАМІНАЛЬНАЕ ПАДАРОЖЖА

Напрыканцы навучальнага года рабяты нашага класа разам з класным кіраўніком Н.С.Садоўнікавай зрабілі цікавае і запамінальнае падарожжа ў горад-герой Брэст. Мы наведалі Белавежскую пушчу, Брэсцкую крэпасць, зрабілі экскурсію па вуліцах горада.

Вялікае ўражанне на ўсіх рабят зрабіла наведванне музея жывой прыроды ў Белавежскай пушчы. Мы пабачылі практычна ўсіх жывёлін, птушак і нават насякомых, пражываючых на тэрыторыі Беларусі. Незабыўнай была экскурсія па мемарыялу "Брэсцкая крэпасць-герой". Экскурсавод цікава і запамінальна расказаў аб тым, як змагаліся абаронцы крэпасці ў першыя дні Вялікай Айчыннай вайны, які бяспрыкладны гераізм праявілі не толькі воіны, але і афіцэрскія сем'і, дзеці.



Нам вельмі спадабалася гэтая паездка і яшчэ неаднойчы будзем успамінаць аб ёй з самымі добрымі пачуццямі.

**Вікторыя БАРЫСАВЕЦ, Святлана КАРАНКЕВІЧ, вучаніцы 7 "Г" класа СШ №1.**

# ХТО РАНА ЎСТАЕ — ТАМУ БОГ ДАЕ

Ляцяць гады імкліва, змяняюцца пакаленні, а з імі змяняюцца норавы і звычкі, погляды і перакананні. Але ж у спадчыну дзецям і ўнукам генетычна перадаюцца самыя адметныя рысы нашага народа — працавітасць, чалавечнасць, любоў да роднага краю і жаданне зрабіць нашчадкаў больш шчаслівымі і заможнымі. Такія негатыўныя з'явы нашага жыцця зараз, як лайдацтва, п'янства, крадзеж не з'яўляюцца традыцыйнымі, а набытымі ў выніку неразумных пераўтварэнняў. Таму і змаганне з гэтымі з'явамі павінна абапірацца на традыцыйныя каштоўнасці нашага народа. А яны, гэтыя каштоўнасці, у нашых каранях, у нашым паходжанні. Высвятляюцца вельмі цікавыя з'явы, калі прасачыць за каранямі нават адной сям'і.

Пенсіянеры Марыя Апанасаўна і Мікалай Васільевіч Кірылавы — працавітыя і заможныя жыхары пасёлка Скачок. Марыя Апанасаўна з Гомельшчыны, а Мікалай Васільевіч — тутэйшы. Тут спакон вякоў жылі прадзед, дзед і бацька Мікалая Васільевіча. Нават назвы некаторых мясцін захавалі іх прозвішчы і імёны. Да прыкладу, "Кірылава балота", дзе растуць журавіны, і "Ванькаў садок" — па імені дзеда, які валодаў гэтымі землямі. У дзеда было восем сыноў, адзін з якіх Васіль Іванавіч Кірылаў і стаў прадаўжальнікам і захавальнікам радавога гнязда. Тут у сярэдзіне трыццатых і нарадзіўся Мікалай Васільевіч, тут жыве і зараз са сваёй сям'ёй. Яго бацька Васіль Іванавіч, якога аднавяскоўцы ласкава называлі Васільком, адсюль пайшоў на вайну. Ён не вярнуўся дахаты гадаваць і выхоўваць сваіх дзяцей, бо загінуў смерцю героя ў 1945 годзе ў вызваленчым паходзе супраць фашызму. А Міколка, васьмігадовым, разам са сваёй маці, сёстрамі і братам зведаў жахі лагера смерці ў балотах каля Азарычаў. Дзіцячая памяць захавала звярынае аблічча фашызму. На ўсё жыццё боль і страты дзяцінства пакінулі свае адмеціны ў яго свядомасці. У спадчыну ад дзеда, бацькі ён па вядомых прычынах не атрымаў зямлі. Але ж працавітасць, земляробскае майстэрства, кемлівасць, вынаходлівасць, уменне ўсё добра пралічыць і прааналізаваць перадалося Мікалаю Васільевічу ад продкаў. А ён, у сваю чаргу, шчодра дзеліцца сваім вопытам і ўменнем са сваімі дзецьмі, якіх у яго трое: Мікалай, Валянціна, Уладзімір. Мікалай і Уладзімір атрымалі вышэйшую тэхнічную адукацыю і працуюць на лесаўчастку. Мікалай — старшым механікам, Уладзімір узначальвае калектыў лесаўчастка. Валянціна стала медыкам і працуе ў горадзе Горкі нашай вобласці. Вось гэта коратка аб каранях.

А зараз аб працаўніках з гэтых каранёў. У гаспадарцы Марыі Апанасаўны і Мікалая Васільевіча.тры каровы, цяляты, гадавалыя свінні і парсюкі, куры. Чым ні мініферма? І цяглавая сіла ёсць: трактар, конь, прычапны і навясны інвентар. Мы прывыклі лічыць працаўнікамі тых, хто рупліва працуе ў грамадскім сектары. Для такіх і Свята працы, і Дошка гонару, і ўзнагароды. Нават прынцыпова пытанне аб ашчаднасці, эканамічнай эфектыўнасці працы тады не ставіцца. А тут два пенсіянеры без усялякіх патрабаванняў і амбіцый атрымліваюць высакаякасную прадукцыю ў сваёй уласнай гаспадарцы ў такой колькасці, што хапае для поўнага забеспячэння сваёй сям'і, і значная частка рэалізуецца на рынках Бабруйска і райцэнтра. Пры гэтым малочныя прадукты, сала і мяса, яйкі адпавядаюць самым высокім стандартам, біялагічна і экалагічна чыстыя. Гэта забяспечваецца высакаякасным кормам, які Кірылавы нарыхтоўваюць самі ўсёй сваёй сям'ёй. Усё тут тлумачыцца вельмі проста: яны прадаюць тое, што і самі спажываюць.

Мікалай Васільевіч і яго сыны прафесійна валодаюць тэхнікай, яны і вяскоўцам дапамагаюць апрацаваць прысядзібныя ўчасткі. А яшчэ Мікалай Васільевіч добры цясляр. Адчуваеш эстэтычнае задавальненне, калі назіраеш за ўмелымі і спрактыкаванымі яго дзеяннямі, калі пры дапамозе няхітрых прылад груда бярвенняў пераўтвараецца ў прыгожую лазню. Было б вельмі здатна, калі б выпускнікі будаўнічых вучылішчаў умелі так працаваць. Назіраючы за сучасным становішчам, прыходзіш да высновы: калі не навучымся маральна, юрыдычна, сацыяльна падтрымліваць сапраўдных працаўнікоў незалежна ад месца іх эфектыўнай працы, то многае страцім. Толькі працаўнікі павінны быць героямі нашага складанага часу.

Вельмі рана, разам з птушкамі ўстаюць і пачынаюць новы дзень Кірылавы. Гэта пра іх і такіх як яны ў народзе кажуць: "Хто рана ўстае — таму Бог дае".

**Валянцін СІВАКОЎ, наш няштатны карэспандэнт.**

## Вынікі перапісу

# ДЭМАГРАФІЧНАЯ СІТУАЦЫЯ НА КІРАЎШЧЫНЕ

Тэрыторыя нашага раёна, якая падзелена на 9 сельсаветаў, складае 1305 квадратных кіламетраў. Маецца 11 калгасаў, адзін саўгас, падсобная гаспадарка "Шыннік", два сельскагаспадарчыя калектыўныя прадпрыемствы, Жыліцкі сельгаскаледж, ПТВ-220, 6 прамысловых прадпрыемстваў.

Усяго ў раёне налічваецца 127 населеных пунктаў, у якіх пражывае 27460 чалавек, з іх у Кіраўску — 9031. Сярэдняя шчыльнасць насельніцтва складае 48 чалавек на квадратны кіламетр.

Дэмаграфічны аналіз паказвае, што колькасць насельніцтва раёна паступова змяншаецца. Калі ў 1959 годзе ў раёне пражывала 39,7 тысячы чалавек, то ў 1999 — 27,4.

У галінах народнай гаспадаркі на пачатак бягучага года занята 9564 чалавекі (у параўнанні з 1998 менш на 3,3%). У асноўным людзі працуюць у сельскай гаспадарцы — 45%, у прамысловасці — толькі 7,7%.

У апошнія гады назіраецца спад вытворчасці як у сельскай гаспадарцы, так і ў прамысловасці. Так, у 1999 годзе атрымана прадукцыі на 27,8 мільёна рублёў, што ў супастаўных цэнах 1983 года на 15,5 працэнта менш, чым у 1998 годзе.

За апошняе пяцігоддзе назіраецца прыкметнае зніжэнне колькасці заключаемых шлюбаў, а вось колькасць разводаў наадварот павялічваецца. За перыяд з 1990 года на 36,7 працэнта знізілася колькасць шлюбаў, а разводаў павялічылася на 74. У 1999 годзе на 100 шлюбаў прыходзілася 60 разводаў.

Сямейныя адносіны характарызуюцца шэрагам спецыфічных асаблівасцей, але дамінуючай прычынай недаўгавечных сямейных саюзаў з'яўляецца п'янства. Важнай прычынай распаду з'яўляецца таксама сацыяльная неабароненасць і матэрыяльная незабяспечанасць сем'яў. Па дадзеных перапісу ў раёне пражывае старэй 15 гадоў 9902 мужчыны і 12083 жанчыны. У шлюбе знаходзяцца 6689 мужчын і 6735 жанчын. Не заключалі наогул сямейнага саюзу 2144 прадстаўнікі моцнага і 1676 — слабага полаў.

У параўнанні з 1990 годам нараджальнасць у раёне знізілася на 34,4 працэнта, а смяротнасць павялічылася на 13,9. Па дадзеных перапісу больш памірае жыхароў сельскай мясцовасці. У 1990 годзе нарадзілася 352, а памерла — 432, у 1999 — адпаведна 231 і 492 чалавекі.

Калі аналізаваць смяротнасць па захворваннях, то летась 57 працэнтаў памерлі ад захворванняў сістэму кровазвароту, 15,4% — ад новаўтварэнняў, 7,9% — у выніку няшчасных выпадкаў, атручвання і траўм. У 1999 годзе 1,8 працэнта ад агульнай колькасці памерлых склалі выпадкі самазабойства.

У параўнанні з 1990 годам смяротнасць дзяцей ва ўзросце да 1 года павялічылася на 50 працэнтаў. Летась мужчынская смяротнасць перавысіла жаночую на 11,1 працэнта. У працаздольным узросце ў 1999 годзе памерла 15,6 працэнта людзей ад агульнай колькасці памерлых.



Колькасць насельніцтва раёна скарачаецца таксама і за кошт міграцыі. У 1999 годзе прыбыло ў раён на 16,5 працэнта людзей менш, чым у 1995. Працэнт міграцыі сельскага насельніцтва ў апошнія гады значна павялічваецца, удзельная вага яго ў агульнай колькасці выбыўшых у 1999 годзе склала 61 працэнт.

У нашым раёне пражывае 6 чалавек, якім па 100 і больш гадоў — і ўсе жанчыны. Адна доўгажыхарка пражывае ў Кіраўску, астатнія — у сельскай мясцовасці.

Сярэдні ўзрост насельніцтва — 39,7 года (мужчын — 36,4 года, жанчын — 42,5). У іх ліку: гарадское — 35,2 года, вясковае — 41,9 года.

Вышэйшую адукацыю маюць 1616 жыхароў раёна, сярэднюю спецыяльную — 4204, прафесійна-тэхнічную — 1932, сярэднюю — 5108, няпоўную сярэднюю — 4075, пачатковую — 4530. Зусім непісьменных — 210.

Па нацыянальнасці насельніцтва размяркоўваецца наступным чынам: 22821 беларус, 4192 — рускіх, 49 — палякаў, 267 — украінцаў, 36 грузінаў і інш.

У якасці роднай мовы па нацыянальных прыкметах ужываюць 25769 жыхароў. На чыста беларускай мове размаўляюць дома 298, рускай — 10815 чалавек.

Свабодна размаўляюць на беларускай мове 1199, рускай — 4910, польскай — 5, украінскай — 20, англійскай — 47, нямецкай — 73, французскай — 19, іспанскай — 1.

**Раённы аддзел статыстыкі.**

# На Чыгірынскай ГЭС

***Ні днём, ні ўначы ні на хвіліну не спыняюць свайго размернага руху турбіны Чыгірынскай ГЭС, выпрацоўваючы для патрэб народнай гаспадаркі жыватворны электрычны ток. Дзякуючы намаганням невялікага калектыву, які на працягу многіх гадоў узначальвае М.П.Савосценка, усё абсталяванне станцыі ўтрымліваецца ў належным рабочым стане. Вось толькі засушлівае надвор'е не спрыяе росту прадукцыйнасці: нізкі ўзровень вады не дазваляе выйсці на праектныя паказчыкі выпрацоўкі электраэнергіі. Так было летась, складана і сёлета: з пачатку года выпрацавана 2 мільёны 705 тысяч кВт-гадзін энергіі (у мінулым годзе — 6 мільёнаў кВт-гадзін). Граматна эксплуатуюць тэхнічную частку станцыі, нясуць вахту згодна графіка дзяжурныя электраманцёры С.Л.Садоўскі, Р.Б.Юрасаў і А.А.Сушчынскі.***





Фота Івана Лукановіча.

*На здымках: дзяжурны электраманцёр А.А.Сушчынскі ў час змены; Чыгірынская гідраэлектрастанцыя.*

# ПРОГРАММА ТЕЛЕПЕРЕДАЧ




## ПЯТНИЦА, 9 июня

**БТ**

**6.30, 7.10** Доброе утро, Беларусь! **7.00, 9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 17.00, 19.00, 23.55** Новости. **8.15** Док. экран. **8.35** Потребительская корзина. **8.53** Выпускной экзамен по математике за курс базовой школы. **9.10** "Голубая чашка". Худ. фильм. **10.10** Мультиклуб. **11.10** "Все мои дети". Телесериал. **11.55** "Премьер-парад". **12.20** Сделано в Беларуси. **12.35** Усадьба. **14.30** Бон тон. **15.10** "Таинственный мир Алекс Мак-2". **15.35** Мультфильм. **16.10** "Риск-версия". **17.10** "Марсово поле". **17.30** Наш край. **18.00** Сериал "Сити". **18.40** МСН. **19.15** Док. фильм. **19.50** "Все мои дети". Телесериал. **20.40** Колыбельная. **21.00** Панорама. **21.35** Событие. **21.50** Военная драма "Спаситель" (США). **23.30** Бездельник. **0.05** Криминальная хроника.

**ОРТ**

**8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.15** Новости. **8.15** "Доченька". 2-я серия. **9.50** Процесс. **10.30** "Новые приключения Синдбада". **13.30** "Вместе". **14.15** "Волшебник Изумрудного города". **15.25** "Папа угнал автомобиль". Комедия. **17.30** Джентльмен-шоу. **18.00** Экстренный вызов. **18.30** Вкусные истории. **18.45** Поле чудес. **19.45** Спокойной ночи, малыши! **20.00** Время. **20.45** Коломбо. "Как совершить убийство". **22.10** "Евровидение-2000". **23.30** Триллер "Тень сомнения".

**"РОССИЯ"**

**7.00, 8.00, 12.00, 16.00, 19.00, 22.00** Вести. **7.20, 2.05** "Дежурная часть". **7.35** Семейные новости. **7.45** Доброе утро, Россия. **8.30** Тысяча и один день. **8.45** "Арена — спорт". **9.20** "Цыганка". **10.10** "Санта-Барбара". **11.00** Телеспецназ. **11.25** Мой XX век. **12.30** "Город женщин". **13.05** "Черная жемчужина". Сериал. **13.55** "Богатые и знаменитые". Сериал. **14.50** "На здоровье!" **15.30** Мультфильм. **16.35** Акуна матата. **17.20** Сериал "Монахини в бегах". **18.25** "Городок". **19.40** "Дикий ангел". **20.35** "Остров фантазий". **21.30** "Грязные танцы". **22.30** "Панорама". **23.25** Худ. фильм. "Интимный дневник". **1.35** Дневник чемпионата Европы-2000.

**"КУЛЬТУРА"**

**11.30** Новости культуры. **11.40** "Король — белый медведь". Худ. фильм. **13.00** Музыка американских композиторов. **13.30** Мультфильм. **14.15** "Звук моих шагов". **14.45** Телеэнциклопедия. **15.00** Новости. **15.10** "Чародей. Страна великого дракона". **15.35** "В мире пушкинской поэзии".

**"МОГИЛЕВ-1"**

**6.30, 7.10** "Ранехонько!" **7.00** "Навіны раніцы". **8.05** "Саманта". Сериал. **8.55** "Дикая природа". **9.20** "Песни любви". Драма. **16.30** "Из жизни женщин". **17.00** "За гранью возможного". Телесериал. **17.45** Мультфильмы. **18.00, 20.10** "Праздник в Вашем доме". **19.20** Телемагазин. **19.30** Пунктир. **20.55** "Только ты". Телесериал. **21.45** Астро-дайджест. **21.50** Рейтинг-фильм.

## СУББОТА, 10 июня

**БТ**

**7.00** Доброе утро, Беларусь! **8.00** Док. экран. **8.25** Усадьба. **8.53** Выпускной экзамен по белорусскому и русскому языкам за курс средней школы. **9.00, 15.00, 19.00** Новости. **9.10** Потребительская корзина. **9.25** "Сегодня с вами..." **9.55** "Все нормально, мама!" **10.25** "Одиссея команды Кухто". **10.55** Компьютерный полигон. **11.15** Вершина мира. **11.40** Столица. **12.10** Сельчане. **12.35** Книгосбор. **13.10** "Тайны женского характера". **13.40** Око. **14.00** МСН. **14.15** Сделано в Беларуси. **14.30** Познай себя. **15.10** "Поем с оркестром". **16.00** Олимп. **16.30** Ток-шоу "Будни". **17.15** Телевизионный Дом кино. **17.45** Творческий вечер заслуженной артистки РБ В.Кареликовой. **18.40** Из достоверных источников. **19.20** Евролига КВН. **20.45** Премьера песни. **21.00** Панорама. **21.50** "Христофор". **22.05** Кинокомедия "Кавказская пленница". **23.25** Волейбол. Чемпионат Европы. Женщины. Беларусь — Польша. **0.00** Видимо-невидимо.

**ОРТ**

**7.00, 9.00, 17.00** Новости. **7.10** Слово пастыря. **7.25** "Все путешествия команды Кусто". **8.15** "Ералаш". **8.25** Играй, гармонь любимая! **9.10** Смак. **9.30** Ускоренная помощь. **10.00** Док. детектив "Контрольный выстрел на меже". Дело 1997 года. **10.30** Утренняя почта. **11.00** "Неуловимые мстители". Худ. фильм. **12.25** Как это было. **13.05** К 10-летию интронизации Патриарха русской православной церкви Алексия II. **13.45** Русский музей. **14.10** Седьмое чувство. **14.50** "Эх, Семеновна!" **15.30** Детектив-шоу. **16.10, 17.15** Песня года. **18.10** Комедия "Безжалостные люди". **20.00** Программа Сергея Доренко. **20.55** "Время футбола": ЕВРО-2000. **21.35** Футбол. Чемпионат Европы. Сборная Бельгии — сборная Швеции. **23.40** Триллер "Туман".

**"РОССИЯ"**

**7.00** Музыкальная мелодрама "42-я улица". **8.30** Почта РТР. **9.00** Доброе утро, страна. **9.50** "Сто к одному". **10.35** Сам себе режиссер. **11.05** "Друзья" Сериал. **11.35** "Золотой ключ". **12.00, 19.00** Вести. **12.20** Федерация. **13.10** Мелодрама "Старшая сестра". **15.00** "Том и Джерри". **15.15** Планета Земля. **16.10** "Театр + ТВ". **17.05** Моя семья. **18.05** "Два рояля". **19.40** Аншлаг и К⁰. **20.45** Фильм В.Тодоровского "Страна глухих". **23.00** Боевик "Наемный убийца" (Гонконг).

**"КУЛЬТУРА"**

**9.05** "Аистенок". **9.30** "Российский курьер". **10.10** "Кино: вчера и всегда". **10.35** "Человек родился". Худ. фильм. **12.15** Играет М.Федотов. **12.35** Графоман. **13.00** "Парижский журнал". **13.30** Новости культуры. **13.45** "Сыновья и любовники". Телесериал. 1-я серия. **14.40** Мой цирк.

**"МОГИЛЕВ-1"**

**15.00** "Али-Баба и 40 разбойников". Муз. сказка. **16.20, 18.15** "Праздник в Вашем доме". **17.30** "Эко-Пойнт" Телесериал. **19.30** Телемагазин. **19.40** "Баллада о доблестном рыцаре Айвенго". Приключения. **21.10** Видеодром. **21.30** "Смертельная битва". Боевик. **23.10** Астро-дайджест. **23.15** "Отель "Новая роза". Фант. боевик.

## ВОСКРЕСЕНЬЕ, 11 июня

**БТ**

**7.00** Доброе утро, Беларусь! **8.00** Мультсериал. **8.30** Здоровье. **9.00, 15.00** Новости. **9.10** Потребительская корзина. **9.25** Мультиклуб. **9.55** Туробъектив. **10.20** "Все нормально, мама!" **10.50** "Премьер-парад". **11.15** Арсенал. **11.40** Таиландский бокс. Матч сборных клубов "Беларусь — Россия". **12.10** Золотые ключи. **12.40** "На волне взаимопонимания". **13.30** Сериал "На гребне волны". 4-я серия. **14.15** МСН. **14.30** "Сегодня с вами..." **15.10** Белорусский дом. **15.40** "Все деньги с кошельком". Худ.фильм. **16.10** "Наши песни". **16.40** Теленавигатор. **17.00** Банка комиксов. **17.30** Мелодрама "Старомодная комедия". **19.00** "Судьба человека". Ирина Михайловская. **19.30** Стадион. **20.00** Резонанс. **20.45** Ток-шоу "Карамболь" с участием Земфиры. **21.20** Д.Малкович в драме "Огр". **23.13** Суперобраз XXI века. **23.43** Столичный хит. **0.23** Авто-парк.

**ОРТ**

**7.00, 9.00, 14.00, 17.00** Новости. **7.10** Армейский магазин. **7.40** "Дисней-клуб". **8.10** Утренняя звезда. **9.10** "Непутевые заметки". **9.30** Экстренный вызов. **10.00** "Альф". **10.30** Здоровье. **11.00** "Новые приключения неуловимых". Худ. фильм. **12.25** "В поисках утраченного". **13.05** Клуб путешественников. **13.45** Русский музей. **14.10** "Умницы и умники". **14.55** "Дисней-клуб". **15.50, 17.15** Песня года. **18.05** Комедия "Гудзонский Ястреб". **20.00** Время. **20.45** Футбол. Чемпионат Европы. Сборная Франции — сборная Дании. **22.50** Триллер "Исчезновение".

**"РОССИЯ"**

**7.00** Папа, мама, я — спортивная семья. **7.55** Служу Отечеству! **8.20** "Устами младенца". **8.55** Доброе утро, страна. **9.30** "Аншлаг" и К⁰. **10.30** "Городок". **11.00** Русское лото. **11.40** Мультфильмы. **12.00** Вести. **12.20** Парламентский час. **13.10** Новая "Старая квартира". **14.10** Диалоги о животных. **15.05** "Тайны тысячелетия". Док. сериал. **15.50** Пресс-клуб. **16.50** Международная панорама. **17.35** Авантюрная комедия "Вальс золотых тельцов". **19.00** Зеркало. **19.55** Боевик "Инферно". **21.30** Футбол. Чемпионат Европы. Сборная Голландии — сборная Чехии. **23.45** Эротический триллер "Абиссиния". **1.10 — 3.00** Футбол. Чемпионат Европы. Сборная Турции — сборная Италии.

**"КУЛЬТУРА"**

**9.05** "Аистенок". **9.30** Мультфильм. **10.35** Экспедиция "Чиж". **11.00** "Консилиум". **11.30** "Воспоминания о Большом зале". **13.00** Дворцовые тайны. **13.30** Новости культуры. **13.45** "Сыновья и любовники". Телесериал. **14.40** Отечество и судьбы.

**"МОГИЛЕВ-1"**

**15.00** "Скарбы". **15.25** Мультсериал. **16.15** Фильм — детям "Кащей Бессмертный". **17.20** "Блеф-клуб". **18.00** "Эко-Пойнт". Телесериал. **18.45** Мультфильмы. **19.00** Телемагазин. **19.10** "Опастное погружение". Боевик. **20.40** Астро-дайджест. **20.45** "Однажды вечером". Шоу. **21.25** "Водная страна". Драма. **22.55** "Встреча с..." Группа "Икс-миссия".

*Поздравляем!*



г. п. Кировск,
ул. Новоселов, 17,
**ИННЕ АЛЕКСАНДРОВНЕ МИРОНОВОЙ**

**Дорогая доченька, любимая жена, мамочка!**

***Сердечно поздравляем тебя, наша родная, с днем рождения.***

*Милая, родная,*
*как тебя мы любим,*
*Руки твои нежные,*
*добрые глаза,*
*С нежностью сегодня*
*мы тебя целуем,*
*Ведь словами это*
*выразить нельзя.*
*Ты ведь понимаешь —*
*всякое бывает,*
*Ссоры и обиды,*
*разные слова,*
*Но любовь все это*
*все же побеждает*
*И, конечно, милая,*
*ты всегда права.*
*Время нашей жизни*
*календарь листает,*
*Снова за закатом*
*следует рассвет,*
*Пусть же этот праздник*
*вновь тебе прибавит*
*Много добрых, милых*
*и счастливых лет.*

**Мама, папа, муж, дочери Ольга и Марина.**

п. Жиличи,
ул. Юбилейная, 11,
**ИВАНУ ПЕТРОВИЧУ ЧАЙКО**

**Дорогой, любимый папочка, дедушка, прадедушка!**

***Сердечно поздравляем тебя, наш родной, с 75-летием.***

*Ни к чему считать года:*
*Сколько пройдено —*
*все наше,*
*Лучше знать,*
*что полной чашей*
*Будет жизнь твоя всегда.*
*Будь здоровым ты весь век,*
*Пусть забудутся ненастья,*
*Мы тебе желаем счастья,*
*Самый близкий человек*

**Дети, внуки, правнуки.**

# ДА ВЕДАМА НАСЕЛЬНІЦТВА

**У адпаведнасці з пастановай Міністэрства эканомікі РБ №112 ад 30 мая 2000 года, з 1 чэрвеня бягучага года ўстанаўліваюцца новыя тарыфы на электраэнергію:**

| Спажыўцы | Тарыфы ў руб. за 1 кВт. гадзіну |
|---|---|
| Насельніцтва гарадское — у дамах, абсталяваных электраплітамі | 7,2 |
| | 5,2 |
| Насельніцтва сельскае | 5,2 |
| Бальнічныя ўстановы Міністэрства аховы здароўя | 7,2 |
| Асвятленне лесвічных клетак, двароў | 7,2 |
| Электраэнергія, расходуемая садаводчымі таварыствамі, гаражна-будаўнічымі кааператывамі | 7,2 |

**У раёне электрасетак працуе тэлефон даверу. Па фактах крадзяжоў электраэнергіі можна паведаміць па тэлефоне 21-1-80 у рабочыя дні з 8 да 17 гадзін, па тэлефоне 21-1-81 —у астатні час сутак і ў выхадныя дні.**



# СПАРТАКІЯДА АКТЫВУ БПСМ

На працягу двух дзён праходзіла раённая маладзёжная спартакіяда актыву БПСМ. Усяго прынялo ўдзел 6 каманд, прадстаўленых пярвічнымі арганізацыямі Жыліцкага сельгаскаледжа, ПТВ-220, аўтапарка №14, калгаса імя Свярдлова і кіраўскай пярвічкі па месцы жыхарства.

У праграму спартакіяды былі ўключаны разнастайныя спаборніцтвы і конкурсы. У камандным заліку перамагла каманда Жыліцкага сельгаскаледжа, на другім месцы рабяты з аўтапарка №14, трэцяе месца па праву дасталася кіраўчанам. У асабістым заліку самым дужым прызнаны Віталь Папкоў з Жыліч, лепш іншых на веласіпедзе ездзілі Алена Рудак з Кіраўска і Васіль Улашчанка з Жыліч, а самымі трапнымі ў стральбе былі кіраўчанка Вольга Рудак і Віталь Барысёнак, якія выступаў за аўтапарк №14.

**Наш кар.**

# ВЯСЁЛЫЯ СТАРТЫ

**Фота Віктара Котава.**



*Адбыліся чарговыя раённыя спаборніцтвы па рухавых гульнях сярод выхаванцаў дашкольных устаноў. Такія сустрэчы сталі традыцыйнымі на Кіраўшчыне і праводзяцца ў чацвёрты раз. Сёлета, праўда, пад іншай назвай — "Вясёлыя старты". Дагэтуль яны былі вядомыя, як спартландыя "Малышок". Але назва нікольki не змяніла сутнасці спаборніцтваў: тут у спрытнасці, фізічнай падрыхтаванасці, хуткасці і ўменні змагацца камандай спрачаліся самыя юныя спартсмены — выхаванцы дзіцячых садкоў. На гэты раз былі прадстаўлены чатыры каманды: гарадскіх дзіцячых садкоў №№2, 3, 4 пад адпаведнымі назвамі "Ластаўка", "Калабок" і "Верасок" і Мышкавіцкага дзіцячага садка — "Вясёлая кампанія".*

*Выдатны настрой і спартыўны запал рабят не змог сапсаваць нават раптоўна наляцеўшы дожджык, а вось арганізатарам спаборніцтваў (аддзел па справах моладзі райвыканкама, аддзел па фізкультуры, спорту і турызму райвыканкама і райкам БПСМ) прыйшлося аператыўна перабазіравацца разам з удзельнікамі са стадыёна райцэнтра ў спартыўную залу СШ №1. Менавіта тут і разгарнулася асноўная барацьба за першынство.*

*Спаборніцтвы ўключалі як камандныя залікі, так і індывідуальныя. Трэба адзначыць, што ўсе рабяты выдатна падрыхтаваліся, прадэманстравалі свае лепшыя якасці ў бегу, вядзенні мяча, эстафетах, музычным конкурсе, перацягванні каната. У агульнакамандным заліку перамогу святкавалі ўдзельнікі каманды "Вясёлая кампанія" Мышкавіцкага дзіцячага садка. На другім месцы — каманда "Ластаўка" дзіцячага садка №2, на трэцім — "Калабок" дзіцячага садка №3. Пераможцы атрымалі ў якасці падарункаў ад арганізатараў спаборніцтваў баскетбольныя мячы і вялікія пакеты з цукеркамі, а каманда дзіцячага садка №4, заваяваўшая прыз глядацкіх сімпатый, — набор кегляў і таксама цукеркі.*

*У індывідуальным заліку рабяты спрачаліся ў бегу на 30 метраў. Сярод хлопчыкаў пераможцамі сталі Саша Заблоцкі з дзіцячага садка №2, Андрэй Казакоў з Мышкавіч і Слава Савіцкі з дзіцячага садка №3 райцэнтра. У дзяўчынак найбольш спрытнымі былі Крысціна Шаўцова і Таня Камінская з Мышкавіч, Інга Акуліч з дзіцячага садка №3. Усе дзяўчынкі-пераможцы атрымалі ў падарунак мяккія цацкі, а хлопчыкі — цацачныя аўтамабільчыкі.*

**Таццяна МАІСЕЕНКА.**

**На здымку:** ***каманда "Ластаўка" дзіцячага садка №2 на пастраенні.***

## Усміхнемся



***Пасля другога раунда баксёр пытаецца ў секунданта:***

***— Ты лічыш, я магу перамагчы?***

***— Зразумела! Калі і далей будзеш так махаць рукамі, ён урэшце прастудзіцца і захварэе.***

## ЗМЕНЕНЫ ПРАЦЭНТНЫЯ СТАЎКІ

**З 25 мая бягучага года ўстаноўлены новыя працэнтныя стаўкі па тэрміновых укладах фізічных асоб у нацыянальнай валюце ў наступных памерах:**

*мэтавыя ўклады на дзяцей* — **150% гадавых;**

*накапляльныя ўклады* — **140% гадавых;**

*тэрміновыя ўклады з тэрмінам захоўвання 1 год і больш, звыш 1 года* — **120% гадавых;**

*тэрміновыя дэпазіты з тэрмінам захоўвання не менш 95 дзён* — **100% гадавых;**

*тэрміновыя дэпазіты з тэрмінам захоўвання не менш 35 дзён* — **90% гадавых;**

*тэрміновыя не менш 1 месяца* — **50% гадавых;**

*"Выйгрышны-плюс"* — **115% гадавых (100%** на асноўны капітал плюс **15%** на выйгрыш);

*тэрміновыя ўклады у нацыянальнай валюце са штомесячнай капіталізацыяй* — **100% гадавых;**

*спецыяльныя накапляльныя рахункі для атрымання штомесячнага даходу* — **120% гадавых;**

*тэрміновы ўклад "Навагодні":*

*50 дзён* — **90% гадавых;** *100 дзён* — **100% гадавых;** *150 дзён* — **105% гадавых.**

*У адпаведнасці з умовамі дагавора, змяненне працэнтных ставак распаўсюджваецца на адкрываемыя ўклады, уклады з закончыўшымся абавязковым тэрмінам захоўвання і раней адкрытыя ўклады.*

*Пры датэрміновым патрабаванні грашовых сродкаў з укладаў, па якіх прадугледжаны паніжаючыя працэнтныя стаўкі, дзейнічаюць паніжаючыя працэнтныя стаўкі, устаноўленыя ўмовамі па дадзеных відах укладаў.*

**Адміністрацыя ААБ "Беларусбанк".**

**У сувязі з прывядзеннем Устаноўчых дакументаў у адпаведнасці з патрабаваннямі Грамадзянскага кодэкса РБ, Дэкрэта Прэзідэнта РБ №11 ад 16.03.99 г.** *Дачэрняе прадпрыемства "Кіраўская цэнтральная аптэка №82 Магілёўскага АВП "Фармацыя"* **перайменоўваецца** *ў Дачэрняе унітарнае прадпрыемства" Кіраўская цэнтральная раённая аптэка №82 Магілёўскага гандлёва-вытворчага рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Фармацыя".*



# АБ ПАРАДКУ ВЫЕЗДУ НА УКРАІНУ

Дакументамі, сапраўднымі для выезду грамадзян Рэспублікі Беларусь на Украіну, з'яўляюцца: пашпарт грамадзяніна РБ або замежны пашпарт з дазваляючым запісам аб выездзе ва ўсе краіны свету.

Асобам, не дасягнуўшым 16-гадовага ўзросту, для выезду на Украіну неабходна мець пашпарт грамадзяніна РБ, які афармляецца раённай пашпартна-візавай службай пры прадастаўленні дакументаў як і для дарослых. Дадаткова прадастаўляюцца пісьмовая згода бацькоў і копія пасведчання аб нараджэнні.

Выезд груп дзяцей на Украіну на адпачынак, аздараўленне можа ажыццяўляцца па спісах, аформленых у міжраённай пашпартна-візавай службе пры УУС аблвыканкама па заяўках накіроўваючых арганізацый, якія маюць ліцэнзію на права займацца міжнароднай турысцкай дзейнасцю ці аздараўленнем дзяцей за мяжой.

Афармленне такіх спісаў і пашпартаў робіцца пры наяўнасці пісьмовай згоды бацькоў, заверанай ва ўстаноўленым парадку, і копіі пасведчання аб нараджэнні дзіцяці.

Пры гэтым непаўналетнія, выязджаючыя ў саставе груп дзяцей, а таксама самастойна ці ў суправаджэнні асоб, якія не з'яўляюцца законнымі прадстаўнікамі, абавязаны мець пры сабе заверанае ва ўстаноўленым парадку хадайніцтва аднаго з бацькоў на паездку, якое прад'яўляецца прадстаўніку пагранічных войск пры перасячэнні дзяржаўнай граніцы.

**Сяргей МАКСІМЕНКА,**
**старшы інспектар пашпартна-візавай службы РАУС.**

## У РЭДАКЦЫЮ "КІРАЎЦА"

У нашы сем'і прыйшло непапраўнае няшчасце, вялікае гора: раптоўна памёр наш дарагі і любімы муж, бацька, сын, брат, дзядзька, швагер **Дзмітрый Уладзіміравіч Саўчанка.**

Гэта незаменная для нас страта. І мы вельмі ўдзячныя ўсім, хто не пакінуў нас у бядзе, падтрымаў з першых хвілін напаткаўшага гора. Выказваем шчырую ўдзячнасць праўленню калгаса "Камуніст", усяму калектыву Добасненскай школы, родным, блізкім, сябрам, суседзям і знаёмым, якія аказалі нам маральную і матэрыяльную падтрымку, прыйшлі, каб правесці ў апошні шлях дарагога нам чалавека. Вялікі дзякуй вам, добрыя людзі. Няхай беражэ вас Гасподзь.

**З павагай сем'і А.С.Саўчанка, В.Д.Саўчанка, С.У.Белакурскай.**

**Адміністрацыя, прафсаюзная арганізацыя райбальніцы** выказваюць глыбокае спачуванне медсястры рэабілітацыйнага аддзялення **Вользе Фёдараўне ЮРКОВАЙ і яе СЯМ'І** з выпадку смерці **СВЁКРА, БАЦЬКІ, ДЗЯДУЛІ.**


**Рэдактар Пятро СУРЫНОВІЧ**

*Заснавальнікі:*
*Кіраўскі раённы Савет дэпутатаў,*
*Кіраўскі раённы выканаўчы камітэт,*
*рэдакцыя газеты "Кіравец"*

Рэгістрацыйны № 285.
Падпісана да друку ў 17 гадзін.

Наш адрас: *Рэспубліка Беларусь, 213940, Магілёўская вобласць, г. п. Кіраўск, вул. Пушкінская, 15.*
Тэлефоны: *рэдактар 21-2-63, намеснік рэдактара, адказны сакратар, аддзел грамадска-палітычнага жыцця 21-5-69, аддзелы аграпрамысловага комплексу і экалогіі, пісьмаў і сацыяльных праблем 21-5-35, бухгалтэрыя 21-4-76, спецыялісты настольна-выдавецкай сістэмы 21-3-93.*

*Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і сапраўднасць фактаў.*
*Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннямі рэдакцыі.*
*Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.*

*Аб'ём — адзін друкаваны аркуш*
*Газета выходзіць у сераду і суботу на беларускай мове.*
*Індэкс газеты - 64077. Заказ 3540.*
*Бабруйская ўзбуйнёная друкарня імя Непагодзіна, вул. Сацыялістычная,103.*
*Друк афсетны. Тыраж чэрвеня 2786.*